

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

1993 ВЕРАСЕНЬ 9 ЧАЦВЕР № 170 (605) Цана 10 рублёў

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

### ДОКТОР ЛИНКЕРМАН «ПРОПИСЫВАЕТ» СОТРУДНИЧЕСТВО

Сегодня в Минск прибывает делегация федерального министерства по делам молодежи и женщин Германии во главе с начальником управления международных связей доктором Линкерманом.

Основная цель визита — окончательная подготовка текста соглашения между немецким министерством и Госкомитетом по делам молодежи РБ о сотрудничестве, которое, как планируется, будет подписано в октябре. Один из пунктов договора предполагает обмен молодыми журналистами двух стран.

Анатолий ВИТКОВСКИЙ.

### ГІСТАРЫЧНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ: ДОЎГІ ШЛЯХ НА РАДЗІМУ

**У Міністэрстве культуры рэспублікі прайшла прэс-канферэнцыя, прысвечаная вяртанню на Беларусь культурных і гістарычных каштоўнасцей, раней вывезеных за мяжу.**

Як паведаміў журналістам першы намеснік міністра культуры Уладзімір Гілеп, днямі ў рэспубліку вернута 9,5 тысячы адзінак нацыянальных гістарычных каштоўнасцей, сярод якіх — кераміка, вырабы з жалеза, косці. Гэты каштоўны груз адрасаваны Навагрудскаму краязнаўчаму музею. А вернуты ён на гістарычную радзіму сектарам славяна-фінскай археалогіі Інстытута гісторыі матэрыяльнай культуры Акадэміі навук Расіі, размешчанага ў Санкт-Пецярбургу.

Як сказаў намеснік міністра культуры, старшыня Дзяржаўнай інспекцыі Рэспублікі Беларусь па ахове гістарычна-культурнай спадчыны Дзмітрый Бубноўскі, у бліжэйшых планах Міністэрства культуры і Камісіі па вяртанню гістарычных каштоўнасцей — перагаворы аб вяртанні Святых мошчаў, знойдзеных пры раскопках братамі Булкінымі ля Сафійскага сабора ў Полацку і вывезеных у Санкт-Пецярбург, а таксама магчымасць выдання на Беларусі зборніка рукапісаў Шчакаціхіна, што захоўваюцца ў Эрмітажы. Міністр культуры Яўген Вайтовіч, які таксама прыняў удзел у прэс-канферэнцыі, паведаміў, што на сённяшні дзень падпісаны міжурадавыя пагадненні аб вяртанні гістарычных каштоўнасцей з Польшчай, Германіяй, Літвой, краінамі СНД (за выключэннем Расіі). Рыхтуецца такое пагадненне і з ЗША.

Аляксандр МАЛЧАНАЎ.

### НАШИХ ЭКОЛОГОВ ОЖИДАЕТ КИШИНЕВ

**В Комитет по делам молодежи при Совете Министров РБ из Министерства по делам молодежи и спорта Молдовы пришло приглашение с просьбой направить делегацию для участия в семинаре по вопросам экологии окружающей среды, который состоится 20–21 сентября в Кишиневе.**

**19 сентября на семинар в Кишинев из нашей республики отправятся три человека: представитель Комитета по делам молодежи и два представителя молодежных экологических движений Беларуси.**

Анатолий ВИТКОВСКИЙ.

### ВЫПУСКНІКІ Ў ЦЫВІЛЬНАЕ ЖЫЦЦЕ

10 верасня ў Калодішчах, у цэнтры па перападрыхтоўцы афіцэраў, звольненых у запас, адбудзецца першы выпуск афіцэраў, якія амаль год навучаліся мірным прафесіям. Яны ім спатрэбяцца ў цывільным жыцці. Як паведамілі карэспандэнту БелаПАН у прэс-цэнтры Міністэрства абароны, навучанне праходзіла па нямецкай праграме пад непасрэдным патранажам галоўнага ваеннага ведамства рэспублікі.

Вячаслаў БУДКЕВІЧ.

### АМЕРИКА ОТКРЫВАЕТСЯ ПЕРЕД БУДУЩИМИ СТУДЕНТАМИ

Граждане нашей республики, а также России, Украины, Грузии, Эстонии, Латвии и Литвы теперь имеют реальный шанс в течение одного или двух лет обучения получить образование в Соединенных Штатах Америки. Такую возможность предоставляет программа стипендий имени Эдмунда С.Маски, о начале реализации которой объявило правительство США и Посольство Соединенных Штатов в Беларуси.

Перспектива учебы в Америке открывается для 150 стипендиатов. Стипендии будут присуждаться на основании открытого конкурса. Среди обязательных условий участия в нем: отсутствие финансовых средств для получения образования в США, возраст не старше 40 лет, диплом об окончании вуза, полученный до июля 1994 года, свободное владение английским языком, возможность приступить к занятиям летом 1994 года.

Счастливчикам, прошедшим конкурс, по окончании учебы будет вручен диплом или присвоена ученая степень по направлениям: управление коммерческой деятельностью, государственное управление, юриспруденция, экономика.

ЮСИА — РИД.

□ ФОТОФАКТ

**НА ДНЯХ в демонстрационном зале Белорусского центра моды состоялась презентация известной французской фирмы «Нина Риччи», организованная отечественной фирмой «Белайр» и посольством Франции. Впервые в СНГ законодателями самой высокой моды Франции «Кутюр» и «Риччи Клаб» были представлены женские платья, наиболее адаптированные к нашим условиям, мужская одежда, аксессуары. В презентации приняли участие представители министерств культуры, легкой промышленности, бизнесмены.**

Виктор НАБЕРЕЖНЫЙ.

НА СНИМКЕ: во время презентации.

Фото автора.




□ КУРЬЕЗ

### ПУТАНА С КОМСОМОЛЬСКИМ БИЛЕТОМ

*Как сообщила корреспонденту РИДа не пожелавшая представиться сотрудница одной из гостиниц столицы, в этом заведении прочно обосновалась девица легкого поведения с необычной кличкой — «Комсомолка». Ходят слухи, что иностранные клиенты приходят в экстаз, когда, раздеваясь, она сначала выкладывает на кровать сбереженный комсомольский билет. Однако, к газете «Комсомольская правда» путана, по собственному замечанию, никакого отношения не имеет и даже не читает ее.*

Анатолий РОМАНОВИЧ.

□ КРЫМІНАЛ

### ЗАМЕСЦІ СЛЯДЫ НЕ ЎДАЛОСЯ

**Рэдкі дзень на чыгунцы праходзіць без ахвяр. І, як правіла, па віне саміх пацярпелых. Але бываюць і выключэнні. Раніцай, на перагоне Мінск — Калядзічы грузавым цягніком быў зроблены наезд на рабочага піўзавода Д. Эксперты высветлілі, што смерць наступіла яшчэ да наезду ад асфіксіі. Як стала вядома, Д. быў задушаны у сваёй кватэры наладчыкам кавальскага цэха Мінскага трактарнага завода і рабочым ВА «Інтэграл». Адзін з забойцаў затрыманы, другі — у вышуку.**

## ■ ГЭТА БЫЛО ЎЧОРА

### ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ

Таццяна ЛАЗОЎСКАЯ, «ДВ».

Нягледзячы на вэрхал, які падняла каманда спадара Гайдукевіча — Старшыні так званага Народнага руху Беларусі, свята Беларускай вайсковай славы адбылося. Пачалося яно на плошчы Перамогі, дзе патрыёты Беларускага згуртавання вайскоўцаў усклалі кветкі да помніка воінам і партызанам, загінуўшым у гады Вялікай Айчыннай вайны, ушанавалі іх памяць мінутай маўчання. А пасля прадстаўнікі палітычных партый, рухаў дэмакратычнага кірунку, грамадскіх арганізацый, гараджане калонай, захоўваючы спакой, парадак, накіраваліся да Дзяржаўнага акадэмічнага Беларускага тэатра оперы і балета, дзе адбылася асноўная частка свята. Перад удзельнікамі яго выступілі лідэр Беларускага народнага фронту «Адраджэньне» Зянон Пазняк, гісторыкі народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Валянцін Голубеў і Павел Лойка, Старшыня Беларускага згуртавання вайскоўцаў Мікалай Статкевіч, са святочнай праграмай — знакамітыя фальклорныя калектывы, рок-гурты «Мроя», «Уліс», «Новае неба», свае вершы прачыталі маладыя паэты.

На жаль, беларускі ўрад адмежаваўся ад святкавання Дня Беларускай вайсковай славы, а значыць, часткі свайго народа, які прыйшоў да опернага тэатра ўшанаваць памяць продкаў, якія загінулі ў барацьбе за незалежнасць Бацькаўшчыны.

Дзень Беларускай вайсковай славы — не толькі бітва пад Оршай з заваёўнікамі з Маскоўскай дзяржавы. Гэта і бітва з татарамі пад Койданавам, Клецкам, на Сіняй вадзе, змаганне Касцюшкі, Каліноўскага, беларускіх дэмакратаў у 1918 годзе за ўсталяванне Беларускай Народнай Рэспублікі і перамогі ў дзвюх сусветных войнах.

Як сведчаць гістарычныя факты, Беларусь ніколі не была заваявана збройнай сілай, пачынаючы са старажытнасці. Мангола-татары прайшлі з агнём і мячом амаль праз усе краіны, а захлынуліся на Беларусі. Нашы продкі перамагалі ворагаў не таму, што былі дужэйшымі. Яны змагаліся за веру, праўду, свабоду, умелі арганізавацца, трымаць дысцыпліну. Так здарылася і пад Оршай у 1514 годзе, калі беларускае 30-тысячнае войска асіліла войска маскоўскае, якое пераўзыходзіла яго па колькасці амаль ці не ўтрая.

Стагоддзямі нашы продкі змагаліся за свабоду і незалежнасць, абараняліся ад знешніх ворагаў. І толькі тры гады назад, дзякуючы развіццю падзей у былым Саюзе, Беларусь атрымала нейкае падабенства суверэнітэту. Здавалася, трэба мацаваць яго, з дэкларатыўнага пераўтварыць у сапраўдны. Але наш любімы ўрад паціху здае дзяржаўнасць пад крыло Расіі, вядзе мэтанакіраваную, запланаваную кампанію пазбаўлення атрыбутаў гэтай дзяржаўнасці: мытні, крэдытна-фінансавай сістэмы, мовы і г.д.

Не здзіўлюся, калі неўзабаве паважаныя кіраўнікі здадуць і дзяржаўныя сімвалы: бел-чырвона-белы сцяг, герб з выявай «Пагоні», а на шыльдах устаноў з'явіцца «двуглавый российский орел»... Зусім рэальна, калі ўлічыць, што для беларускага ўрада гэты суверэнітэт сувенірны, які зваліўся на галаву, як снег з неба. Гульня лёсу? Людзі, якія змагаліся супраць суверэнітэту, ім кіруюць?

Зрэшты, у гэтым разбяруцца гісторыкі і даследчыкі — справа часу. А пакуль, падобна, святкаванне вайсковай славы на Беларусі становіцца традыцыяй. Гучыць клятва на вернасць Радзіме. Яе паўтараюць тысячы людзей. А забараніць любіць Радзіму не пад сілу нават Богу.

**Дарэчы, на 3-яй старонцы пад рубрыкай «Меркаванні» чытайце матэрыялы, прысвечаныя Дню Беларускай вайсковай славы. Рэдакцыя імкнулася ўлічыць і паказаць увесь спектр думак, поглядаў на яго святкаванне.**

## КАЛЯНДАР



Чацвер, 9 верасня.

СОНЦА — 6.31/19.43.

Даўжыня дня — 13.12.

МЕСЯЦ — апошняя квадра 8 верасня, захад 15.17/усход 22.59.

ІМЯНІНЫ

Сёння:

*Праваслаўныя* — Анфісы, Кукшы, Ліверыя, Пімена.

*Каталіцкія* — Пятра, Сэргія.

Заўтра:

*Праваслаўныя* — Майсея, Іава, Ганны.

*Каталіцкія* — Лукі, Міколы.

## ■ ГЭТА ФАКТ

### ПА КЛІРЫНГУ МЯСАПАСТАЎКІ ІДУЦЬ ЦЯЖКА

**Толькі 27 тысяч тон мяса са 100 адправілі ў Расію беларускія вытворцы ў лік пагашэння крэдытаў за энерганосьбіты. Папоўніць да канца года ўпушчаныя магчымасці цяпер будзе няпроста. Мінула лета. Мінулі і надзеі на багатыя прыбаўленні ў вазе пры адкорме. А наперадзе — нялёгкая зімоўка з няяснымі перспектывамі і новымі праблемамі ў эканоміцы.**

**Кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў, зразумела, нескладана апраўдаць, спаслаўшыся на леташнюю засуху і бяскорміцу, вымушанае скарачэнне пагалоўя. Нескладана таксама і абвінаваціць іх у кансерватызме, неразуменні задач пераходнага перыяду да новых грамадскіх і эканамічных адносін. І ў тым, і ў іншым выпадку для ісціны месца знойдзецца. Больш складана, як заўсёды, з вырашэннем праблемы. Мяса па клірынгу ўсё роўна трэба пастаўляць, інакш зусім вычарпаецца сустрэчны паток энерганосьбітаў. А без іх не абысціся самім вытворцам. Тым больш, што наконт гэтага ёсць недвухсэнсавае пісьмо «Раскантракта» аб спыненні з 1 кастрычніка паставак энерганосьбітаў у выпадку запазычанасці па крэдытах.**

БЕЛІНФАРМ.

## ■ У МІНГАРСАВЕЦЕ

### ПАДРЫХТОЎКА ДА СЕСІІ МІНГАРСАВЕТА ВЫХОДЗІЦЬ НА ФІНІШНУЮ ПРАМУЮ

**У аўторак старшыня Мінскага гарсавета А.М.Герасіменка правёў першае пасяджэнне Каардынацыйнай Рады, у склад якой уваходзяць старшыні або прадстаўнікі ўсіх пастаянных дэпутацкіх камісій. Рада разгледзела прыкладны пералік пытанняў, якія выносяцца на разгляд чарговай XIII-ай сесіі Мінгарсавета, ход іх падрыхтоўкі.**

Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».

Намеснік старшыні Мінгарсавета А.В.Гурыновіч паведаміў, што дэпутатам прапануецца ўжо другі праект праграмы сесіі (матэрыялы да якога раздадзены дэпутатам), але і ў ім чатырнаццаць пытанняў і варта падумаць аб скарачэнні некаторых. Але, калі прыступілі да абмеркавання, высветлілася неабходнасць дапаўнення і расшырэння.

Асабліва шмат розных дапаўненняў і ўдакладненняў выклікалі тры першыя пытанні праекта парадку дня сесіі, якія датычацца прыватызацыі камунальнай уласнасці. Слушныя прапановы выказаў старшыня камісіі па эканамічнаму развіццю і бюджэту У.М.Карагін. Ён прапанаваў вызначыць спіс прадпрыемстваў, якія нельга прыватызаваць, каб не парушыць нармальнае жыццё гараджан; разабрацца з кожным прадпрыемствам, што жадае прыватызавацца; выдзеліць у асобны спіс прадпрыемствы, у ходзе прыватызацыі якіх будуць адпрацаваны мадэлі прыватызацыі. Ён жа прапанаваў надрукаваць спіс стратных прадпрыемстваў Мінска. Іншы падыход выказаў старшыня пастаяннай камісіі па энергетыцы, транспарту, дарожнай гаспадарцы і сувязі А.П.Лапунін. Ён прапанаваў надаць праграме крыху іншы выгляд, асвятліўшы ў ёй формы, умовы, прычыны прыватызацыі. Зноў жа, неабходна разабрацца ў прычынах стратнай працы прадпрыемстваў.

Старшыня гарсавета А.М.Герасіменка падвёў вынік дыскусіі. Ён прапанаваў зрабіць так, каб справа зрушылася з месца, каб быў створаны механізм кантролю за прыватызацыяй і ў выніку яе жыццё мінчан рабілася лягчэй, а не пагаршалася і ўскладнялася.

Рада разгледзела ўсе пытанні ў павестку дня чарговай сесіі, папярэдне вызначыла, што яна павінна пачацца не пазней пятага кастрычніка. Дадаткова ўнесены пытанні «Аб мерах па паляпшэнню работы Мінгарсавета» і «Аб рэдактары газеты «Добры вечар». У час, што застаўся да сесіі, Рада будзе збірацца кожны тыдзень і разглядаць ступень падрыхтоўкі пытанняў.

## ■ ГАРАДСКІЯ КРАЯВІДЫ



*МІКРАРАЁН «МАЛІНАЎКА-4»*

Фота Юрыя ЗАХАРАВА

## ■ ДАЧАКАЛІСЯ

### «ЗАЯЦ» РУБЛЮ — ТАВАРЫШ !?

**Прадстаўнікі ўрадаў і нацыянальных банкаў шасці краін СНД: Арменіі, Беларусі, Казахстана, Расіі, Таджыкістана і Узбекістана падпісалі 7 верасня ў Маскве пагадненне «Аб практычных мерах па стварэнню рублёвай зоны новага тыпу».**

Пракаменціраваць гэта паведамленне ТАСС карэспандэнт БЕЛІНФАРМа папрасіў прадстаўнікоў Нацыянальнага банка Беларусі, камерцыйных банкаў «Прыёрбанк», «Беларусь», «Дукат» і звычайных валютчыкаў.

Як паведаміў намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Валянцін Заяш, што-небудзь афіцыйнае каменціраваць пакуль рана. «Да падпісання гэтага дакумента аб уваходжанні рэспублікі ў рублёвую зону новага тыпу ў Нацыянальнага банка было падрыхтавана некалькі варыянтаў пагадненняў. Якое з іх стала асноўным у Маскве, сказаць пакуль не бяруся. Ды і наколькі мне вядома, усе члены праўлення банка сёння знаходзяцца ў Мінску, а не ў Маскве».

Прадстаўнікі мінскіх камерцыйных банкаў, азнаёміўшыся з пераказам тэксту пагаднення, прыйшлі да адзінай думкі, што нічога істотнага ў эканамічным жыцці рэспублікі з падпісаннем самога пагаднення не адбудзецца. Жаданне дзяржаў СНД «мець агульную грашовую сістэму з выкарыстаннем рубля — валюты Расійскай Федэрацыі ў якасці законнага плацежнага сродку» на валютным рынку рэзкіх ваганняў не выкліча.

На думку банкіраў, прагноз аб рэзкім зніжэнні ў Беларусі курса долара памылковы з-за таго, што пераход на агульную з Расійскай Федэрацыяй грашовую сістэму будзе рэгулявацца і вызначацца «асобным двухбаковым пагадненнем адпаведнай дзяржавы і Расіі». А ў ім і будзе агавораны каэфіцыент, па якому беларускі разліковы білет будзе прыраўноўвацца да расійскага рубля.

Валютчыкі на Камароўскім рынку ў Мінску з падпісаннем міжурадавага пагаднення «Аб рублёвай зоне новага тыпу» таксама не спяшаліся расставацца з заакіянскімі грашовымі знакамі. Як сказаў адзін са спецыялістаў «чорнага» рынку, «Зона — яна і ёсць зона. Якога б тыпу яна ні была: новага ці старога. Азартныя гульні з нашым урадам ні да чаго добрага не прывядуць. А таму давер'е долару куды большае, нават, калі ён некалькі зніізіцца ў цане».

БЕЛІНФАРМ.

## ■ СПОРТ-ПАНАРАМА «ДВ»

### *АКАДЭМІЧНАЯ ГРЭБЛЯ*

**ВЕЛЬМІ няўдалым стаў для беларускіх спартсменаў чэмпіянат свету, што закончыўся ў чэшскім горадзе Рудніца. Калі ўжо казаць прама, то інакш як правалам гэта не назавеш. Вядома, сёння стан спраў у гэтым відзе не такі, каб разлічваць на медалёвы «дождж», але ж і былі ў нас дасягненні яшчэ зусім нядаўна — у Барселоне ў мінулым годзе. Аднак ужо ў паўфінале ўзялі вёслы ў чахлы Кацярына Хадатовіч і Алена Хлопцава, на добрае выступленне якіх у двойцы парнай беларускія трэнеры разлічвалі. Як не трапілі ў фінал Наталля Сухадольская з Ірынай Грыбко на двойцы без рулявога. Словам, на апошнія старты ў барацьбе за медалі выйшла з Беларусі толькі жаночая васьмёрка. Але яна ў фінале была толькі пятай і значна ўступіла лідэрам.**

### *ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА*

У БРУСЕЛІ завяршыўся апошні рэгулярны этап «Гран пры ІААФ/«Мобіл». Як і на папярэднім, у Берліне, у лік прызёраў трапіла Наталля Шыкаленка ў кіданні кап'я. На гэты раз, праўда, яна з рэзультатам 66,16 м была другой. А першай стала Трыне Хатэстад з Нарвегіі, якая, дарэчы, стала ўладальніцай вельмі цікавага прыза. Дык вось, у рамках гэтага шматэтапнага турніру была выдзелена серыя «Залатая чацвёрка» — нешта накшталт «Вялікага шлема» ў тэнісе. Той з лёгкаатлетаў, хто выйграе гэтую серыю, г.зн. быў першым на кожным з тых чатырох вызначаных этапаў — **атрымлівае 20-кілаграмовы залаты злітак.** Ні больш, ні менш. Хатэстад, як, дарэчы, яшчэ чацвёра спартсменаў, золата прыдбала. Прыемна, што на гэтым брусельскім этапе не згубілася і сястра Наталлі Шыкаленка — Таццяна. Яна была пятай у гэтым жа відзе.

### *ХАКЕЙ*

**ПА-МІНУЛАГОДНЯМУ стартавалі ў розыгрышы Кубка МХЛ хакеісты мінскага «Цівалі». Безумоўна, праблем і са складам каманды, і іншага характару хапае, але, пэўна, толькі заўзятыя песімісты маглі чакаць, што дома «цівалісты» пачнуць так няўдала. Іх супернік — «Металург» з Новакузнецка далёка не гранд турніру, калі не сказаць больш. Аднак мінчане яму прайгралі — 1:2. Прычым, як і летась, гульню паказалі вельмі слабую, хаатычную і нервовую. Першымі прапусцілі шайбу — гэта здарылася на 20-й хвіліне — і толькі ў трэцім перыядзе Андрэй Скабелка выраўняў лік. Аднак на 54-й хвіліне нападаючы гасцей Уладзіслаў Марозаў паставіў усе кропкі над «і».**

**Сёння «Цівалі» прымае дома «Тарпеда» з Усць-Каменагорска. Супернік, безумоўна, больш грозны, чым першы. Будзем спадзявацца, што нашы хакеісты не «зацыкляцца» на няўдачы і пакажуць, чаго яны вартыя.**

### *КОМУ СТОЯТЬ У СТЕНКИ?*

Игорь КРУМКАЧЕВ.

БЕЗУСЛОВНО, центральным матчем предстоящего тура будет игра между командами «Электроника» и «Корона». Ожидаемое дерби привлекает по нескольким причинам. Первая: оба коллектива «прописаны» в одном районе города — Юго-Запад — и друг друга знают как «облупленных», проводя матчи между собой каждую неделю. Для любителей острых ощущений, во-вторых, сообщу: проигравшая в этих сражениях команда «расстреливается» соперником. Игровым мячом. У стенки. Далее — «Корона» сейчас явно на подъеме. В матче прошедшего тура подмяла под себя еще одного фаворита. «Академик» был повержен со счетом 1:5. И последнее — любопытно будет посмотреть в настоящем деле обновленную почти наполовину, усилившуюся «Электронику». Ее победу над испытывающим проблемы с составом «Парадоксом» (4:1) не следует принимать всерьез. «Матч века» состоится в субботу, 11 сентября в 13.00.

Своеобразное достижение установил «Харламов-83». Вот уже 16 матчей подряд (с 27 апреля 1992 г.) эта команда не знает поражений. За это время одержано 14 побед при 2 ничьих при разнице мячей 39-9. Хотя в последнем матче «Метрополитен» едва не прервал эту выдающуюся серию. «Харламов» переломил ход матча лишь за 10 минут до финального свистка — 3:2.

Результаты наиболее боевых матчей:

«Тайм-Фартех» — «Штурм» — 5:2, «Виктория» — «Байт» — 2:1, ВРЗ — «Бекар» — 5:2, «Терминатор» — «Лом юнайтед» — 1:1.

В споре бомбардиров шестеро футболистов провели по 4 мяча. Лидируют Большой («Харламов-83»), Зезюльчик, Шкируть (оба — РФСК), Малейко («Стадион»), Нейман («Немига»), Шишкин («ЧК»). Еще шестеро имеют в своем активе по 3 гола.

## ■ ФАКТ И КОММЕНТАРИЙ

### ЧЕМ БЫ ДИТЯ НИ ТЕШИЛОСЬ...

Анатолий БЕЛОУС, «ДВ».

**Помнится, последний чемпионат по скейтборду прошел недавно в столице бывшей Чехословакии. Телевидение нашим зрителям показало лишь несколько сюжетов. Кудесники «доски» творили немыслимые пируэты и сальто-мортале. Красочное, захватывающее зрелище...**

**Неровен час и наши ребята взойдут на спортивный Олимп. Группу таких энтузиастов, человек 10–15, мне довелось наблюдать на днях во дворе Академии наук. Шустрые подростки облюбовали здесь бездействующий фонтан, благо, склоны у него пологие, а воды, кроме как дождевой, тут и в помине не бывает. Дорога нынче электроэнергия, чтобы тратиться на ее циркуляцию. Вся наука перебивается, образно говоря, с хлеба на воду, тут уж не до красот. А ребятам — раздолье. Конечно, может и не к месту их самодеятельное увлечение. Да и росписи красителями по стенкам бассейна популярных групп — сущее излишество, если не сказать жестче. Но, по правде говоря, чем бы дитя ни тешилось... А тут еще и с пользой для физического развития. По мне, так пусть лучше эти сорванцы бороздят днище бывшего фонтана, нежели их фамилии фигурируют в криминальных сводках. Ибо сегодня многократно возросшая подростковая преступность — факт непреложный.**

